І ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове Ліпень 2015

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну

## Закон не працуе, ці Чаму ў 2014 годзе зваротаў па-беларуску было толькі 0,76%




стар. 2

**Міліцыя шукае пацярпелых ад дзеянняў гомельскага махляра**

стар. 5

**Гомельскі епіскап Стэфан пераканаў дзяўчыну не скакаць з моста**

стар. 6

**Вярхоўны суд пакінуў у сіле смяротны вырак жыхару Рэчыцы, які жорстка забіў 19-гадовую дзяўчыну**

стар. 7

# Закон не працуе, ці Чаму ў 2014 годзе зваротаў па-беларуску было толькі 0,76%

***У 2012 годзе пачалі дзейнічаць змены ў законе «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб», у адпаведнасці з якімі адказ на пісьмовы зварот павінен быў давацца на мове звароту. Здавалася, што з прыняццем зменаў у закон, што забяспечваюць і абараняюць правы беларускамоўных, колькасць зваротаў па-беларуску вырасце***

Каб гэта праверыць, я распачаў доўгатэрміновае даследаванне на падставе статыстыкі па мове зваротаў, якую я запытваў у выканаўчых камітэтаў беларускіх адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак — гарадоў, раёнаў, абласцей і адміністрацый у гарадах.

На жаль, далёка не ўсе прадстаўнікі выканкамаў ішлі на сустрэчу і не давалі інфармацыю па запыце, кіруючыся рознымі падставамі.

Як прыклад, можна прывесці адказ начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Чэрвеньскага райвыканкама Алены Гоман, якая паведаміла:

«Інфармацыя аб колькасці пісьмовых зваротаў грамадзян перадаецца ў Мінскі абласны выканаўчы камітэт, гэтыя звесткі прыватным асобам высылаць лічым немэтазгодным».

Пакінем за дужкамі наогул законнасць такога адказу, тым не менш адзначым толькі тое, што сам Мінскі аблвыканкам палічыў мэтазгодным мне прадставіць инфармацыю па запыце, хоць і не ў тым аб'ёме, які б мяне задаволіў. Так кіраўнік справаў Мінскага аблвыканкама Іван Маркевіч паведаміў:

«На падставе артыкула 21 закона «Аб інфармацыі, інфарматызацыі і абароне інфармацыі» паведамляем, што ў Мінскі аблвыканкам у 2014 годзе паступіла 5853 звароты грамадзян і юрыдычных асоб. Статыстыка па зваротах не вядзецца».




На жаль, выкарыстаць дадзены адказ для даследавання не ўяўляецца магчымым, бо няма разрэзу па мовах. І гэта другі прыклад адказу, паводле якога немагчыма было атрымаць звесткі для даследаванняў у 2011–2014 годах.

Тым не менш, адказ Мінскага аблвыканкама паказвае, наколькі законнымі з'яўляюцца адказы Чэрвеньскага і іншых выканкамаў, што адмаўляліся паведамляць статыстыку па зваротах на падставе меркаванняў «немэтазгоднасці» і іншых няслушных і крывадушных прычын.

Але тут ужо задача вышэйстаячых выканкамаў пракантраляваць сваіх падначаленых па пытанні парушэння заканадаўства, у першую чаргу закона «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб».

Трэцяй прычынай, чаму інфармацыя аб зваротах была сабраная не ў поўным аб'ёме, ёсць альбо хлусня, альбо дрэнная праца пошты. Не буду настойваць на тым, якая прычына праўдзівая, тым не менш адзначу, што ў 2014 годзе пісьмовы зварот, і не адзін, я даслаў у выканкам кожнай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі.

Тым не менш, з Кармянскага райвыканкама за подпісам старшыні Аляксея Ясонава прыйшоў ліст з інфармацыяй аб тым, што «паступіла 43 пісьмовыя звароты грамадзян. Звароты напісаны на рускай мове». Аналагічны адказ прыйшоў і з Брагінскага райвыканкама, дзе кіраўнік справамі Валер Чэкан паведаміў, што «паступіла 64 пісьмовыя звароты, усе яны напісаны па-руску».

Таму ў дадзеным выпадку альбо вымалёўваецца свядомае скажэнне статыстычнай справаздачнасці, альбо парушэнне заканадаўства аб зваротах грамадзян, альбо пошта дрэнна працуе і мае лісты ў раёны Гомельшчыны не даходзяць.

Але заўважу толькі, што лісты, на якія я атрымаў адказы, былі па-беларуску, таму ўжо тут нельга казаць, што «ўсе яны напісаны па-руску».

І тут зноў ёсць інтарэс абласных выканкамаў даведацца, што адбываецца з працай у адпавед-

насці з законам «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб» на падведамственнай ім тэрыторыі.

Чацвёртая, і не менш важная, прычына, па якой не атрымалася сабраць усё неабходную інфармацыю, банальная – проста ігнараваўся закон «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб» і адказ на зварот не даваўся наогул.

Разабраўшыся з прычынамі, якія не дазволілі атрымаць поўныя дадзеныя, пяройдзем да аналізу тых звестак, што атрымалася здабыць. Хоць яны і не поўныя, але агульную карціну намаляваць могуць.

Так у 2011 годзе, калі абавязку даваць адказ па-беларуску ў чыноўнікаў не было, зваротаў па-беларуску было толькі 0,5%, ці 75 зваротаў з 15107 атрыманых выканаўчымі камітэтамі.

У 2012 годзе закон набыў моц, але на колькасць зваротаў гэта не дужа паўплывала: па-беларуску было атрымана толькі 65 з 10434 зваротаў, ці 0,62%.

У 2013 колькасць беларускамоўных зваротаў у параўнанні з 2011-м годам вырасла ў працэнтных суадносінах у два разы, але ў лічбах зменшылася і наогул засталася на нізкім узроўні: беларускамоўных зваротаў было толькі 64 з 6580, ці 0,97%.

Калі да 2013 года колькасць беларускамоўных зваротаў хоць пакрысе, але расла, то ў мінулым 2014-м годзе іх адсотак зменшыўся да 0,76% і агульная колькасць зваротаў па-беларуску склала 72 звароты з 9507 атрыманых.

Карацей, адсотак беларускамоўных зваротаў нагадвае колькасць прагаласаваўшых супраць кіраўніка Паўночнай Карэі на ўсеагульных і дэмакратычных выбарах.

Выглядае ўсё вельмі сумна, асабліва калі прадстаўнікі райвыканкамаў у адказах не адмаўляюць сабе ў задавальненні патроліць і пакпіць з мяне, а ў цэлым і з усіх беларускамоўных, як гэта зрабіла, напрыклад, кіраўнік справаў Лоеўскага райвыканкама Ірына Пастухова:

«Паступіла 50 зваротаў, з іх: 49 на рускай мове, 1 на беларускай (Ваш)».

Ці як старшыня Маларыцкага райвыканкама Казімір Лапіч:

«Паступіла 129 зваротаў, з іх на беларускай мове 4 (2 ад Вас)».

Чытаючы такія прыкрыя, але праўдзівыя лісты, сапраўды задаешся пытаннем: «Можа сапраўды толькі табе, Ігар, гэта беларуская мова і патрэбна?»

Але не ўсё так проста. Вернемся да гэтага пытання ніжэй, а зараз працягнем аналізаваць статыстыку.

Калі прыбраць адказы з вялікіх гарадоў, то малюнак выглядае крыху лепш: у 2011-м было 0,66% па-беларуску, у 2012-м — 0,99%, у 2013-м — 0,62% і ў 2014-м — 1,65% зваротаў па-беларуску.

Па абласцях сітуацыя выглядае наступным чынам.

*Берасцейская вобласць*

Берасцейшчына даволі добра прадстаўляла дадзеныя, асабліва ў 2011—2012 гадах, там магчыма прасачыць дынаміку колькасці беларускамоўных зваротаў у чатырох раёнах. Але не выпадае казаць, што менавіта змены ў закон паўплывалі на колькасць зваротаў па-беларуску. Калі у Маларыцкім раёне колькасць зваротаў па-беларуску вырасла з 0,48% у 2011-м годзе да 3,1% у 2014-м, то ў Іванаўскім знізілася з 1,86% у 2011 годзе да 0,81% у 2014-м. У Кобрынскім раёне ў 2012-2013 годзе адбываўся рост, а ў 2014 колькасць зваротаў па-беларуску ўпала да ўзроўню 2011 года.

Адзінае, што можна казаць упэўнена, гэта тое, што колькасць зваротаў у абсалютных лічбах па гадах амаль не змяняецца.

*Віцебская вобласць*

Віцебшчына паказала негатыўную стабільнасць — амаль усе раёны, як змовіўшыся, паведамілі, што прадстаўленне інфармацыі немэтазгодна, што дае падставу меркаваць аб цэнтралізаваным кіраванні адказамі ў вобласці. А вобласць сама сабою цікавая. Хоць была атрыманая інфармацыя толькі па двух раёнах, але адзін з гэтых двух мае вельмі добрыя паказчыкі на ўзроўні ўсёй Беларусі.

У Расонскім райвыканкаме ў 2011 годзе адсотак беларускамоўных зваротаў быў 4,55%, у 2013-м — 11,63%, а 2014 год скончыўся з паказчыкам 9,21%.

Статыстычна выглядае няблага, але, на жаль, раён невялікі і ў лічбах карціна не такая прыгожая.

*Гарадзенская вобласць*

Гарадзеншчына праявіла сябе нігілістычна — больш за палову






# Закон не працуе, ці

## Чаму ў 2014 годзе зваротаў па-беларуску было толькі 0,76%. Працяг

раёнаў наогул не адказалі, а тыя, што адказвалі, рабілі гэта вельмі спарадычна. Нельга не заўважыць, што колькасць зваротаў па-беларуску ў Зэльвенскім раёне знізілася з 10,29% да 3,53%.

Стабільна даваў адказы на працягу ўсіх гадоў назірання толькі Смаргонскі раён, якім да 2014 году кіраваў Мечыслаў Гой, што зараз узначальвае Гарадзенскі аблвыканкам.

*Гомельская вобласць*

Гомельшчына, як і Берасцейшчына, даволі добра давала інфармацыю. На жаль, нельга казаць, што адсотак зваротаў па-беларуску ў вобласці за часы дзеяння зменаў у закон істотна падвысіўся.

Трэба адзначыць Гомельскі аблвыканкам — адзіны з аблвыканкамаў, што даваў статыстыку ў разрэзе моў нягледзячы на вялікую колькасць зваротаў.

*Магілёўская вобласць*

Terra incognita закона «Аб зваротах грамадзян» — статыстыку адсюль наогул не ўдалося атрымаць. Палова раёнаў наогул не адказвала, а другая палова паведамляла, што даваць інфармацыю немэтазгодна. Хутчэй за ўсё, як і ў выпадку з Віцебшчынай, тут скардынаваная пазіцыя ў пытанні непрадастаўлення інфармацыі.

*Мінская вобласць*

У параўнанні з Гарадзеншчынай, Магілёўшчынай і Віцебшчынай, дала даволі шмат адказаў, з якіх вынікае, што сітуацыя з беларускамоўнымі зваротамі ў 2011—2014 змянілася нязначна, хоць у лічбах, калі параўноўваць 2011 і 2014 гады, рост назіраецца.

*Мінск*

Самым дысцыплінаваным раёнам сталіцы быў Кастрычніцкі, які паведаміў, што ў 2011 годзе ў яго адміністрацыю па-беларуску звярнуліся 2 разы, а ў 2014 – цэлых 5. Сумны факт, калі ўлічыць, што Мінск не толькі адміністрацыйная, але і культурна-палітычная сталіца Беларусі, якая акумулюе сілы з усёй Беларусі. Магчыма, я памыляўся. Альбо ўсе беларускамоўныя пісалі лісты ў Маскоўскі раён.

У заканчэнне аналізу можна зрабіць наступныя высновы:

1. Змены ў закон хоць і нязначна, але стымулююць павелічэнне выкарыстання беларускай мове ў афіцыйным справаводстве.

2. Беларусы далёка не ў поўную меру карыстаюцца сваім правам на беларускамоўны зварот. Да таго ж у Беларусі існуе вельмі шмат ініцыятыў, якія перыядычна збіраюць подпісы і шлюць звароты на хвалюючыя іх тэмы, але далёка не заўсёды па-беларуску.

3. Асноўная праблема ў тым, што сітуацыю адным законам не вырашыць, калі ўся сістэма нарматыўных актаў не прадугледжвае замацаванага права на выкарыстанне беларускай мовы ва ўсіх сферах жыцця. Гэта і тлумачыць тое, што колькасць беларускамоўных зваротаў не расце.

Неабходна ў першую чаргу ўнясенне змен у законы «Аб мовах» і «Аб абароне правоў спажыўцоў», што прадугледжваюць і нарматыўна забяспечваюць абавязковага выкарыстання дзвюх дзяржаўных моў у роўнай ступені і выданне ўсіх нарматыўных актаў адразу на дзвюх дзяржаўных мовах.

І галоўнае — нам усім неабходна больш ужываць беларускую мову паўсюль.

*Ігар Случак*



# Выкладчык аграрнага каледжа за хабар рабіў курсавыя

***Упраўленне Следчага камітэта па Гомельскай вобласці завяршыла расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да выкладчыка Буда-Кашалёўскага дзяржаўнага аграрна-тэхнічнага каледжа, які абвінавачваецца ў атрыманні хабару, паведамілі ў Следчым камітэце Беларусі.***

Следствам устаноўлена, што выкладчык дысцыпліны «Тэхнічнае абслугоўванне сельскагаспадарчай тэхнікі» ў перыяд з кастрычніка 2012 года па сакавік 2015 за пэўную плату падрыхтоўваў ад імя навучэнцаў курсавыя праекты па сваім прадмеце і выстаўляў за іх станоўчыя адзнакі ў адпаведную ведамасць, журнал навучальных заняткаў і кніжку паспяховасці. Узнагароджанне абвінавачваны атрымліваў у замежнай валюце і беларускіх рублях, а таксама прымаў таварна-матэрыяльныя каштоўнасці. Памер хабару складаў, як правіла, $50. Акрамя таго, мелі месца факты перадачы выкладчыку каністраў з бензінам і дызельным палівам.

Супрацьпраўныя дзеянні фігуранта насілі сістэмны характар. Практычна усе дапытаныя па крымінальнай справе навучэнцы паказалі, што далі пра магчымасць замовы курсавой працы ў педагога. Праваахоўнікі сабралі доказы па 21 эпізодзе нелегальнай дзейнасці абвінавачанага. На яго маёмасць, якая ацэньваецца ў Br300 млн, накладзены арышт. Дзеянні выкладчыка кваліфікаваныя па ч.2 арт.430 (атрыманне хабару) КК Беларусі.

*БелТА*




# Міліцыя шукае пацярпелых ад дзеянняў гомельскага махляра

***У Гомельскім гарадскім аддзеле Следчага камітэта расследуецца шматэпізодная крымінальная справа аб махлярстве ў дачыненні да Басалыкі Андрэя Аляксандравіча, 1993 года нараджэння, які шляхам падману завалодаў грашовымі сродкамі грамадзян на агульную суму не менш як 36 000 даляраў ЗША, паведамляе прэс-служба Следчага камітэта.***

Падчас папярэдняга расследавання выяўлена, што ў 2014 годзе абвінавачаны на падставе выгаднага набыцця аўтамабіляў у Расійскай Федэрацыі ў перыяд дэвальвацыі, не маючы намеру выканаць узятыя на сябе абавязацельствы, браў грошы ў знаёмых, якія пражываюць у Гомелі і Мінску. Таксама ўстаноўлены факт завалодання абвінавачаным пад рознымі падставамі грашыма былой сужыцелькі з г. Мінска ў суме 4400 даляраў ЗША.

Атрыманыя незаконным шляхам грошы непрацуючы гамяльчук выдаткоўваў на асабістыя патрэбы, у тым ліку ў ігральных і забаўляльных установах.

На дадзены момант па крымінальнай справе, узбуджанай па ч.3 арт.209 (махлярства, здзейсненае ў буйным памеры) Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, пацярпелымі прызнаныя 9 чалавек. У праваахоўныя органы працягваюць паступаць заявы ад грамадзян у дачыненні да абвінавачанага.

Следства звяртаецца да грамадзян, якія пацярпелі ад супрацьпраўных дзеянняў абвінавачанага, з рэкамендацыяй неадкладна звярнуцца ў другое следчае аддзяленне Гомельскага гарадскога аддзела Следчага камітэта (г. Гомель, вул.Кірава, д.122) па тэлефоне 60-74-25 або ў бліжэйшае аддзяленне міліцыі.

*nn.by*



# 48-гадовы шлюбны аферыст з Грузіі спакусіў гамяльчанак на $12000

***Гомельскія і мінскія міліцыянты затрымалі грамадзяніна Грузіі, якога падазраюць у серыі шлюбных махлярстваў, паведамілі БЕЛТА ва УУС Гомельскага аблвыканкама.***

Мужчыну знялі з самалёта Масква—Мінск—Тбілісі і перавезлі ў Гомель, дзе ён праходзіць фігурантам па чатырох крымінальных справах аб махлярстве, здзейсненым, па папярэдняй версіі, падчас знаходжання ў абласным цэнтры ў канцы мінулага года. Тады ураджэнец Грузіі прыехаў у горад па запрашэнні гамяльчанкі, з якой ён пазнаёміўся праз сацыяльную сетку.

У час знаходжання ў Гомелі мужчына паспеў завесці рамантычныя адносіны яшчэ з дзвюма жанчынамі, якія сталі ахвярамі яго чараў. Усе яны страцілі грошы, а таксама залатыя ўпрыгожванні.

Пацярпелых можа быць больш, бо грамадзянін Грузіі гастраляваў у розных краінах СНД. У сацыяльнай сетцы пацярпелыя ад яго дзеянняў нават стварылі групу, прысвечаную вышуку мужчыны, а на ўкраінскім тэлеканале выйшла перадача на гэтую тэму.

*Паводле БелТА*

Набыў праз інтэрнэт кнігу "Як разводзіць лахоў на грошы ў сеціве". Нешта яна дагэтуль не прыйшла.

# Гомельскі епіскап Стэфан пераканаў дзяўчыну не скакаць з моста

***22 ліпеня прыкладна ў 9.30 дзяўчына, якая залезла на дугу пешаходнага моста цераз раку Сож у Гомелі, спрабавала ўчыніць суіцыд, паведамляе БелаПАН.***

Каля моста сабраліся прахожыя, прыбылі супрацоўнікі МНС і міліцыі. Паводле слоў відавочцаў, дзяўчына плакала і гаварыла, што спусціцца толькі ў тым выпадку, калі прыедзе яе маці.

Непадалёк ад пешаходнага моста знаходзіцца праваслаўнае епархіяльнае ўпраўленне. На месца НЗ прыйшоў епіскап Гомельскі і Жлобінскі Стэфан.

На мосце ён доўга размаўляў з дзяўчынай, пасля чаго яна спусцілася ўніз.




Праваахоўнікі і ратавальнікі пры гэтым не стаялі побач, таму не чулі, пра што ішла гаворка, піша kp.by. Але самае галоўнае, што праз некалькі хвілін дзяўчына сама спусцілася з фермы. Яна ішла хістаючыся, пад ўздыхі разявакаў, але паспяхова дабралася да кратаў, адкуль яе знялі супрацоўнікі МНС.

Епіскап адвёў дзяўчыну ў епархіяльнае ўпраўленне.

На просьбу журналістаў пракаментаваць здарэнне ўладыка адказаў: «Я не герой».

Ён сышоў, адмовіўшыся гутарыць з прэсай.

Як паведаміла kp.by прэс-сакратар Гомельскага абласнога ўпраўлення МНС Ксенія Шынгірэй, дзяўчыне — 20 гадоў, яна жыхарка Гомельскага раёна і часова не працуе. Далейшае разбіральніцтва праводзіць міліцыя.

Kp.by дадае, што мост настолькі папулярны ў самагубцаў і экстрэмалаў, што падыход да яго высокай фермы, на якую раней залазілі, каб скокнуць у ваду, прыйшлося заварыць кратамі. Але і яны не перашкодзіла дзяўчыне ўзлезці на самую высокую кропку фермы — 30-35 метраў над ракой.

*Kp.by*

Чалавек памёр і патрапіў на нябёсы. Убачыў там Бога і пытаецца:

- Божа, ну чаму ў іншых было ўсё, а ў мяне нічога? Усё жыццё было безграшовым. Што, складана было даслаць мне хоць крышачку багацця?

Бог яму адказвае:

— Я кожны дзень дасылаў табе "Вы выйгралі ў міжнародную латэрэю мільён еўра", "Заробак у інтэрнэце за некалькі гадзін" і "Рэальны спосаб атрымліваць 5000 долараў штотыдзень" - ты б хоць раз па спасылцы прайшоў.

# Вярхоўны суд пакінуў у сіле смяротны вырак жыхару Рэчыцы, які жорстка забіў 19-гадовую дзяўчыну

***14 ліпеня ў Вярхоўным судзе Беларусі была разгледжаная касацыйная скарга жыхара Рэчыцы Сяргея Іванова. 18 сакавіка 2015 года ён быў прыгавораны Гомельскім абласным судом да выключнай меры пакарання за забойства, здзейсненае з асаблівай жорсткасцю.***

Справа разглядалася ў закрытым рэжыме з-за асаблівай жорсткасці гэтага злачынства і некаторымі інтымнымі асаблівасцямі забойства.

Пасля вывучэння матэрыялаў справы Калегія Вярхоўнага суда пакінула прысуд суда першай інстанцыі — смяротнае пакаранне — у сіле.

У межах кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання» будзе падрыхтаваная наглядная скарга на рашэнне Вярхоўнага суда. Калі яна не прынсе плёну, у абвінавачванага застанеццае адзіны шанец на памілаванне ад імя прэзідэнта пасля падачы адпаведнага прашэння, паведамляе spring96.org.

Нагадаем, па прысудзе Гомельскага абласнога суда 18 сакавіка 2015 года абвінавачаны Іваноў быў прызнаны вінаватым у хуліганстве, якое суправаджалася прымяненнем гвалту, які быў здзейснены паўторна, групай асоб, прадугледжаных ч. 2 арт. 339 КК; у наўмысным прычыненні цяжкага цялеснага пашкоджання, небяспечнага для жыцця пацярпелага, з хуліганскіх меркаванняў, прадугледжаных п. 7 ч. 2 ст.147 КК; ў рабаванні маёмасці, злучаным з ужываннем гвалту, небяспечнага для жыцця і здароўя пацярпелых, здзейсненым паўторна, групай асоб, прадугледжаным ч. 2 арт. 206 КК; у крадзяжы маёмасці, учыненых паўторна, групай асоб, прадугледжаным ч. 2 арт. 205 КК; у наўмысным супрацьпраўным пазбаўленні жыцця іншага чалавека (забойстве), якое было здзейснена з асаблівай жорсткасцю, прадугледжанае п. 6 ч. 2 арт.139 КК Рэспублікі Беларусі.

*spring96.org*

# «Сам рос у дзетдоме і маленькага Арцёма пакінуў сіратой»

***27 чэрвеня ў Гомельскім раёне на трасе Віцебск—Гомель «Шкода» выскачыла на сустрэчную паласу і ўрэзалася ў «Мерседэс». 23-гадовы кіроўца «Шкоды» сканаў у бальніцы, яго 25-гадовая жонка памерла на месцы. 62-гадовы кіроўца «немца» шпіталізаваны з рознымі траўмамі.***

Здарэнне адбылося каля в. Сасноўка днём у суботу. Уладзімір, кіроўца «Шкоды», вырашыў абагнаць фуру і выехаў на сустрэчку. А там — «Мерседэс». Спрабуючы пазбегнуць сутыкнення, хлопец паспеў сысці ўлева. Але моцны ўдар прыйшоўся ў правы бок, дзе сядзела жонка Таццяна.

Відавочца, які праязджаў пасля аварыі, лічыць, што абганяць у тым месцы — латарэя. Там закругленне дарогі і не праглядаецца добра праезная частка.

Выявілася, што ў маладой сям'і застаўся трохгадовы сын Арцём. І непагашаны крэдыт за кватэру. А кіроўца і сам рана застаўся без бацькоў.

«Працавалі разам з Таццянай. Светлым і цудоўным чалавекам была. З ёй прыемна было мець зносіны. Ведаю, што ў мужа Тані бацькі таксама рана пайшлі з жыцця. У іх застаўся маленькі сын — 3 гады. І крэдыт на кватэру», — расказвае калега загінулай Аляксандр.

Уладзімір у дзяцінстве застаўся без бацькоў і трапіў у інтэрнат у Светлагорск.

«Мы былі з Вовам аднакласнікамі, калі вы разумееце, пра што я. Выраслі — раз'ехаліся. І пасля ўжо я знайшоў яго ў сецівe. Даведаўся, што ён ажаніўся, ёсць дзіця. Пры гэтым ён не адпісаўся, чым займаецца, і што па жыцці ў яго. Ён і ў дзяцінстве быў сціплым. Таму, калі вы разумееце што за дзяцінства мы пражылі, я абавязаны выпіць за гэтага чалавека 100 грам», — прыгадаў Васіль. Але не змог назваць, што здарылася з бацькамі хлопца.

«Гэта быў цудоўны чалавек, добры, заўжды дапамагаў. І жонка яго была добрай. Я радаваўся, калі ў іх з'явілася дзіця, калі яны пераехалі ў новую кватэру. Здавалася, што ўсё ў іх наладзілася, а тут такое. У Валодзі не было сям'і, сам ён рос у дзетдоме і маленькага Арцёма пакінуў сіратой. Надта шкада, я ніколі іх не забуду», — засмучаны Максім, сябра сям'і.

У ДАІ МУС паведамілі, што за пяць месяцаў гэтага года праз парушэнне правілаў абгону на дарогах краіны адбылося 24 аварыі, у якіх загінулі альбо былі траўмаваны людзі.

*Сяргей Макарэвіч*

# “Гомельскія Навінкі” – інфармацыйны партнёр Metal Crowd-2015

15-16 августа
РЕЧИЦА - БЕЛАРУСЬ

METAL CROWD
RECHITSA BELARUS
FESTIVAL
open air 2015

СК “НАДЕЖДА”
светлогорское шоссе, 1
ЖИВОЙ ЗВУК!
Начало в 12:00

KBITKI by

ТРОЛЛЬ ГНЁТ ЕЛЬ [RUS]
DIE APOKALYPTISCHEN REITER [DE]
TRUBETSKOY MINSK [BY]
TT'34 [BY]
ДАЙ ДАРОГУ! [BY]

DIGIMORTAL [Rus] EVTHANAZIA [By]
MENTAL HOME [Rus] CALM HATCHERY [Pol]
VOLTUMNA [It] OBLIVION MACHINE [Rus]
SYMPULS-E [Rus] RAINWILL [Rus] VEIN OF HATE [By]
BERSERKER [Lt] [B.T.R.] [Rus] ABSTRACT [Sk] MOJRA [Pol]
TRIGGER [Rus] SCHIZOGEN [Ukr] DEVLSY [Lt] BY CRY [By]
WEESP [By] NIGHTSIDE GLANCE [By] MEAT HEAD [By]
FORODWAITH [By] STAND BY [By] CLAN [By]

МЕСТА ПРОДАЖИ БИЛЕТОВ:
Речица: касса Городской Дворец Культуры /ул.Советская,84/ тел: +375 (2340) 9-15-15
Гомель: Магазин музыкальных инструментов -"SOUNDPRO.BY" /ул. Ирининская, 16Б - возле ПЦК/ тел: +375 (29/33) 615-02-05
Минск: Магазин "Рок бастион" /ул. Уманская, 54, ТЦ "ГЛОБО" 2 этаж, пав. 66/ тел: 8-029-2-666-123 МТС
Минск: РОК-МАГАЗИН "STUFF" /пр.Независимости, 58, ТЦ "МОСКОВСКО-ВЕНСКИЙ" (3 - ЭТАЖ) / тел: +375 25 697-94-53
Бобруйск: Музыкальный магазин "ФОРТЕ" /ул.Советская, 69 - Остановка «Площадь победы»/ тел: 1816819 VEL / 8486819 МТС

СТОИМОСТЬ БИЛЕТОВ ПРЕДВАРИТЕЛЬНО:
на 1 день (любой): 285 000 / 310 000 / 325 000
на 2 дня: 330 000 / 360 000 / 390 000 / 430 000
В ДЕНЬ КОНЦЕРТА: 1 день – 350 000 / 2 дня – 450 000

информационная поддержка
Гомельскія НАВІНКІ ultra-music.com BELMETAL.ORG METALHEADS Relax.by 4 SOULS METALSCRIPT.NET

metalcrowd.by vk.com/metalcrowd facebook.com/metalcrowd.festival

M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі Ліпень 2015»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя “Гомельскія Навінкі 2015”

Надрукавана на
папяровай фабрыцы
“ГумНо”, г. Клінцы,
вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
*vk.com:* gnavinkicom
*facebook.com:* spravavodstva

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com

M&S MEDIA